## **У с т у п .**

**Чэрвень чырванню чаруе,**
**Чоўнам лета паплыло,**
**І жыццё ізноў віруе –**
**Зноўку нешта надышло.**

**І самлелымі Брылямі,**
**Наваколіцай, палямі,**
**Надвячоркавай парой**
**Зноў з’явіўся мой герой.**

**Ну, а як жа без Яцкова? –**
**Ён жа там, дзе часу рух,**
**Дзе прасветлыя галовы**
**Скрозь аблогі, чуткі, змовы**
**Вызначаюць лёсу круг…**

**“Эй, Панас!” – у цемры сенцаў**
**Варушэнне, грукатня, –**
**Ну, ня рві маё ты сэрца!**
**А ці скончыцца херня, –**
**Ну, калі ж ты лямпу ўкруціш?**
**Век які ўжо на двары?..**
**Во, зашыўся ў гэтай гуце!**
**Ну, здароў, харэй стары!..**

**Ой, было́ што! Ты ж у курсе,**
**Што у чэскім землятрусе**
**Пабывалі днямі мы?**
**Й магілёўскія дамы**
**Дзевяць дзён без нас марнелі.**

**А вандроўныя арэлі**
**Сам Агееў уздымаў.**
**Там было, дай Божа, спраў:**
**Штаб, паперы, падрыхтоўка,**
**Візы-шмізы, пашпарты…**
**Там, браток мой, загартоўка –**
**Орднунг чысты, без лухты!**

**“Успамінаўцаў” збіралі**
**Два разы па чацвяргах, –**
**Усё на пальцах паказалі,**
**Усіх уразіў той размах.**

**І сказалі:** ***“Да суботы***
***Дваццаць восьмага – як штык:***
***Разлічыцца ўсім з работай,***
***Каб не здарыўся кірдык!”***

**Усё, браточак, – ёсць дамова.**
**Й мы, сабраўшы хатулі,**
**Ад Брылёў да Магілёва**
**Ў тое шчасце паплылі.**

**П а ч а т а к   ш л я х у .**

**Плошча Леніна. За домам**
**Вунь аўтобус “Неаплан”.**
**І Рыгорыч тут, вядома,**
**Побач – Таня і Багдан.**

**І народ стаў падыходзіць,**
**І зрабіўся табар тут –**

**Усё па чыну і па згодзе.**

**І вядомы баламут**
**Ігар Мухін, зноў не збочыў –**
**Зычна грымнуў: *“Полк! Раўнуйсь!”***
**Да Агеева пакрочыў:**
***“Дакладаю! Беларусь***
***Да кідка падрыхтавана!***
***Можна ехаць! Ужо пара!***
***Бо не позна і не рана!***
***Усё астатняе – мура!***
***Справаздачу скончыў. Мухін”*.**

***“Па машынах!”* І мы ўсе**
**Ад сваёй спрадвечнай скрухі**
**Ды бягом, ды пакрысе –**
**У Эўропу, у Эўропу!**
**Злата Прага, нас чакай!**

**І на ўсё пячатку шлёпнуў,**
**Ох, спякотны травень – май.**

## Д а р о г а .

**Ну, наперад, хлопцы, – з Богам!**

**Казіміраўка. І тут**
**Навалілася аблога,**
**Ледзь не скончыўся маршрут:**
**Рамяні у “Неаплана”**
**Закруціліся не так, –**
**Гэта неяк не па плану,**

**Гэта, скажам так, бардак!**

**І вадзіцелі з “Топ – Тура”,**
**Звышімпэтныя фігуры –**
**Гальштук, урачысты строй –**
**Развінулі той сувой,**
**Зазірнулі ў рухавік,**
**Падкруцілі штось – і зноўку**
**Распачаўся наш адлік.**

**Вось якая, брат, вандроўка!..**

**Ну, да Мінску, як заўсёды –**
**І Бялынічаў радно,**
**І панурыя згароды**
**Ля таго Беразіно.**

**І сталіца прамільгнула.**
**І сябрына разам счула**
**Пра Кайда́наву гаворку**
**І пра ДОТы тыя зоркія.**
**Што трымалі ўсю мяжу.**

**Ну, а потым – жу-жу-жу! –**
**Ігар Мухін, як ён можа,**
**Мякка, з гумарам, прыгожа**
**Распачаў знаёмства рэй, –**
**З-за зачыненых дзвярэй**
**Лёсаў нашых асабістых**
**Ціха, часам і ўрачыста**
**Паліліся гукі. Мы**
**Павялі ў свае дамы –**

**І шугаліся пытанняў**
**Аж да самага змяркання.**

**З н а ё м с т в а .**

**Ігар Мухін з мікрафонам –**
**Пра сябе і пра жыццё,**
**Ды пра лёсу забабоны,**
**І пра шчырае зліццё**
**З гучным песенным сусветам –**
**Дзе гітарны небакрай…**

**Мухін – роўня ўсім паэтам,**
**Ты тут, братка, выбачай!..**

**Быў вайскоўцам, праграмістам,**
**Фізкультуру выкладаў;**
**На чыкагскім пляжы чыстым**
**Дзевак іхніх аглядаў.**

**Зараз песню нараджае**
**Пра кулягінскі агмень, –**
**Сяржука ён паважае,**
**Не шкадуе спеўных жмень.**

**Тут Шаруха Ігар – жвавы**
**Штурманфюрэр баявы –**
**Пра сябе пачаў і справы:**

***“Я бяру да галавы***
***І навуку, і студэнтаў,***
***І грамадскае жыццё!***

***Як вам жыць без нас, дацэнтаў?***
***Мы ж нясем вам адкрыццё!..***
***Вунь, прафесарам прызначаць –***
***Дык я вам пра ўсё заўжды!..”***

**Хлопец, бачу я, гарачы –**
**Не глядзі, што малады.**

**Тут Агееў: *“Нарадзіўся***
***Ён дацэнтам! Верце мне!”***
**І аўтобус не здзівіўся**
**Той ці праўдзе, ці мане.**

**І Сяржук Кулягін следам**
**Падхапіўся, – чысты зух:**

***“Хто мяне яшчэ не зведаў –***
***Будзе ведаць!***
***Кожны зрух***
***У эфіры навакольным***
***Я лаўлю – і на ТБ!***
***Ой, люблю раздзьмуць вуголле!***
***Адчуваю па сабе,***
***Што валодаю усімі!..***
***Пра каханне? Ой, было!***
***Толькі йно ў Ерусаліме –***
***Аж туды вунь занясло…”***

**На чарзе – Наталля Роскач;**
**Уздыхнула, павяла:**

***“Трэба гнаць ад сэрца роспач!***

*Верце:  я сябе знайшла*
*Ў звонкай плыні танцавальнай  –*
*Самба, румба, ча-ча-ча!..*
*Дом зрабіла эпахальна.*
*Лёс сыночка загучаў.*

*Зараз вось трымаю цвёрда*
*Гандаль кніжны.  Там – ого! –*
*Як у тых крывых фіордах:*
*Не бяруць абы каго!..”*

**Аляксандр Рыгорыч Роскач**
**Белазуба падхапіў:**

*“Мне ля жонкі трэба росту!*
*Усё не веру, што набыў*
*Я сабе калісьці шчасце!*
*Мая жоначка  –  ого!*
*Не змагу я з ёй прапасці!..*
*От, бывала, мы танго*
*Як закруцім адмыслова,*
*Дык глядзяць усе на нас!...*
*Гэта толькі шчэ прадмова  –*
*Недзе  там  яшчэ наш час!”*

**Тут чарга да нас дапёрла,**
**Мікрафон узяў за горла,**
**І прыйшлося нам народу**
**Гарадзіць сваю згароду –**
**І пра песні, што над вёскай.**
**І пра наш электарат,**
**І пра тыя адгалоскі,**

**Што ляцяць з сялянскіх хат.**

**Мне ж табе, Панас, не трэба**
**Нешта тут удакладняць –**
**Бо адно над намі неба**
**І адна пад намі гаць…**

**Тут услед падаўся доктар –**
**Брат Ялфімава – Сяргей.**
**І адразу ўзняўся коптур**
**Слоў пра лёс і пра людей:**

***“Я,* – пачаў ён, *– стаматолаг,***
***Міліцэйскі эскулап.***
***Ой, гляджу на іх, на кволых,***
***І лячу! А што ў этап,***
***Калі што не так, адправяць, –***
***Гэта ж сіла, вам скажу!***
***Можа, хто мяне паправіць?..***
***Ну, з гітарай варажу:***
***Пецька, брат, акорды моўчкі***
***Мне калісьці паказаў, –***
***Дык у жонкі зараз вочы***
***І – кахання спеў атаў…***

***Калі што з зубамі будзе –***
***Уратую ад бяды,***
***І у тым ваенным гудзе***
***Час для вас знайду заўжды!”***

**Мікрафон у зубаправа**
**Пераняў Алесь Чугай:**

***“Тут такая, урэшце, справа:***
***Я – філолаг. І той гай***
***Мне заўсёды сэрца грэе…***
***Ну, а розум мой дурэе***
***Ад таго, якую назву***
***Мае Універсітэт –***
***“Харчаванне”! Ой, адразу***
***Знік кудысьці ўвесь імпэт!***
***Эх, наб’ю міністру вока –***
***Хай мне трапіцца калі!”…***

**Тут аднекуля здалёку**
**Словы, быццам жураўлі, –**
**Нам Агеева Таццяна**
**Пра сябе распавяла:**

***“Я з Рыгорычам аддана***
***Па жыцці калісь пайшла…***
***Вось настаўніцай працую –***
***Школа нумар трыццаць два;***
***Свет дзіцячы там мацую –***
***Зелянее там трава***
***Непадробленых памкненняў***
***Да высокага ўсяго…***
***Мой чацверты – як здарэнне!***
***Адпусціла вось яго,***
***А на сэрцы… Эх!.. Ну, ладна…***
***Адпачну ад іх крыху.***
***Ну, а потым неадкладна***
***Зноўку дзеці на шляху”.***

**Тут Багдан Агееў мамку**

**Тэрмінова падтрымаў –**
**І прыпевачную брамку**
**Ўміг для нас пабудаваў.**

**А за ім і бацька следам,**
**Аляксандр Рыгорыч наш, –**
**Пра сябе усё паведаў,**
**І пра свой працоўны стаж;**
**І пра Хімы дарагія,**
**Што ў Аршаншчыне стаяць –**
**Дзе Булаўкіны тугія**
**Ўсе імкнуцца лёс абняць…**

**Ну, а лёс упетрыў зрэнкі**
**І не можа без свайго:**
**Побач – хата Лукашэнкі, –**
**Так, так, так! Таго, таго!..**
**Разам бегалі два Сашы**
**Ўздоўж Ульянаўкі - ракі…**
**І адзін пабег у “нашы”,**
**А другі збег у “бацькі”…**

**Вось каб наш быў на падлёце,**
**Банк сарваўшы ў тым лато, –**
**Мы былі б на самалёце,**
**А не ў гэтым вось аўто…**

**І Туркменію з Прымор’ем**
**Ён агледзеў ад душы, –**
**Можа, дзе на той прасторы**
**Размаўляў з Туркменбашы…**

**Ну, а ў войску камандзірам**
**Шчыраваў на БМП.**
**Усіх пастоіў па ранжыру;**
**Штаб, капцёрка, КПП**
**Пра яго дакладна знalі**
**І з любоўю паважалі –**
**Не хацелі адпускаць.**

**Але іншы шлях абраць**
**Аляксандру давялося:**
**Ён пайшоў праз шматгалоссе**
**Педагогікі высокай –**
**У вучэльні металістаў**
**Гартаваўся, нібы сталь.**
**І з-пад тых ліхіх аблокаў**
**У навуку моцна, чыста**
**Збудаваў ён магістраль.**

**Дысертацыю забацаў**
**Пра рабочы слаўны клас –**
**Дасканала ўсё абмацаў,**
**І праз нейкі пэўны час**
**Найвядомым стаў дацэнтам.**

**У палітыку пайшоў –**
**І павагі сто працэнтаў**
**У Савеце тым знайшоў.**

**Піша кніжкі – самы першы**
**Ён на тытулах заўжды.**
**Пра яго складаюць вершы.**
**Не бяруць яго гады.**

**…Мікрафон да Сегень Жаны**
**Эстафетай перайшоў:**

***“Наш народ не напужаны,***
***Не туды народ пайшоў –***
***Дэмаграфія кульгае!***
***Я бяруся ўсё рашыць!”***

**(Хлопцы тут жа: *“О, якая!***
***Будзем мы з табой дружыць!”)***

**А за Жаначкай Эльвіра**
**Пра сябе распавяла:**

***“Я “ўспамінаўскую” ліру***
***Пяць гадоў таму знайшла.***
***Падабаецца мне тута, –***
***Ой, цікавыя маршруты!***
***Помню, смажылі мы рыбу***
***Ў Феадосіі… Атас!***
***Потым усё стаяла дыбам***
***І у тых сяброў, і ў нас…”***

**Тут спартыўная Анджэла**
**Свой зрабіла падыход:**

***“Па жыцці іду я смела,***
***Праў заўжды неўправарот!..***
***Па навуцы – харчаванне.***
***Лыжы. Танец жывата.***
***З падарожжамі спатканне, –***
***Ой, якая ж лепата,***

***Калі ўзнесціся на сопку***
***Ці да тых акул нырнуць!..***
***Трэба ўсё рабіць таропка,***
***І жыццё патрэбна чуць.***

***Толькі меткасць дазваляю***
***Па мішэнях розных спраў!..”***

***“А ці цэлка ты страляеш?” –***
**Тут Аўраменка спытаў.**

**Увагнаў Анджэлу ў фарбу**
**Найвядомы доктар наш:**

***“Гэта ж мовы роднай скарбы!***
***І зусім не эпатаж:***
***Слова “цэлкасць” - то ж з Палесся,***
***Я адтуля, - паляшук!***
***І на мілым тым узлессі***
***Счуў чароўнай мовы гук.***

***Пра сябе?  Лячу пакрыху –***
***Тут я дока, як ніхто.***
***Ад жывёлы нават ліха***
***Адганяю.  Капыто,***
***Помню, трэснула ў каровы,***
***Дык прыбеглі да мяне, –***
***Павазіўся будзь здарова***
***У кароўскім тым гумне.***

***Сваім вокам аглядаю***
***Вас ужо паціху я***

***І свядома адзначаю:***
***Тут настрою – да…статкова!***
***То ж галоўная умова,***
***Каб ніколі не хварэць,***
***Не тужыць і песні пець!***
***Калі што – вазьму гітару***
***Ды развею тыя хмары…”***

**Следам Суздалева Лара**
**Позірк кінула суровы:**

***“Ой, і светлыя ж галовы***
***Тут – у нашым “Успаміне”!***
***Усё глядзіш, каб, як на міне***
***Не ўзарвацца! Ды было!***
***Помню, так іх павяло!..***

***Я аднойчы, як заўсёды,***
***З чулым сэрцайкам да іх –***
***Пра чароўныя згароды***
***Дрэваў голасемянных.***

***Як пачулі гэта “гола” –***
***Так й смяюцца з той пары…***
***Кожны дзень у іх прыколы,***
***Усё закруцяць дагары!..”***

**Падышла Кускова Ала:**

***“Я з ДК “Хімвалакно”, –***
***Там раблю ўсяго нямала.***
***І ці скончыцца яно?..***

***Вершаў, песень не рабіла –***
***Але дзенешся куды? –***
***Вось магутнай гэтай сілай***
***І кірую там заўжды.***
***Калі трэба рэжысура***
***Ці якая там дрэсура –***
***Вы кажыце мне. Прыду.***
***І адказ на ўсё знайду”.***

**Тут паважна, без прадмовы,**
**З чорным полымем у вачах**
**Выйшла Ала Кузняцова:**

***“Я сюды, пад гэты дах,***
***Неяк трапіла раптоўна.***
***І адразу вам скажу:***
***Усё вы робіце грунтоўна, –***
***Прафесійна я суджу,***
***Бо працую пракурорам***
***(“Ногі ўшыркі! Рукі ўгору!”),***
***І прайшла прыступкі ўсе я.***
***Пагражаюць, часам мне,***
***Але я законнасць сею,***
***Дзе паклоны б’юць мане.***

***Шмат дзе ў свеце пабывала –***
***У Егіпце шчыравала,***
***У Іспаніі нямала***
***Я цікавага знайшла;***
***Па Тунісу паблукала,***
***І праз Польшчу правяла***
***Рысу слаўных вандраванняў.***

*Ёсць і іншае абранне:*
*Для глыбокага дыхання*
*Я гімнастыку раблю;*
*Аэробіку хвалю,*
*І Кулягіна хвалюю -*
*Побач ён са мной заўжды.*

*Ну, а Прага… Я туды*
*Трапіць марыла заўсёды –*
*За таемныя згароды*
*Залатога небакраю…*
*Я ўжо там, я гэта знаю!..”*

**Услед за нашым пракурорам**
**Выйшаў скульптар Вараб’ёў:**

*“Будзе вечным мне дакорам.*
*Калі я без лішніх слоў*
*Не зраблю ў свабоднай Празе*
*Выбух акцыі сваёй!*
*У свеце акцый тых – як гразі.*
*Але я – ой, Божа ж мой! –*
*Нешта так крутну, дарэчы,*
*Што праслаўлюся ў вяках, –*
*На свае закіну плечы*
*Адгалосся звонкі гмах!..*

*Скульптар я: па Магілёву*
*Здолеў штось панатыкаць,*
*І маé ля Куляшова*
*Дзеўкі голыя стаяць.*

*Трэба нам у гэтым гудзе*
*Свет трымаць на віражу…*
*Мы былі, мы ёсць, мы будзем –*
*Я дакладна вам скажу!”*

**Бараноўскі, архітэктар,**
**Падышоў, як фон–барон,**
**І свайго здзіўлення вектар**
**Укруціў у мікрафон:**

*“Пазнаёміцца? Навошта?*
*Галава і так баліць…*
*Я у Прагу пэўным коштам*
*Еду проста піва піць!”*

**Тут Грачышкіна Алена**
**Падляцела птушанём:**

*“Ну, з надвор’ем абалдзенна*
*Будзе ў нас уначы і днём, –*
*Вам кажу аўтарытэтна,*
*Бо за мною – гідрамет.*
*Кожны раз магу канкрэтна*
*Дасылаць адтуль прывет”.*

**Нікіценка тут Сярожа**
**Ўстаў, Алену упрыгожыў**
**І сказаў: “***Упершыню*
*Тут пачуў, браткі, хлусню –*
*Што даводзіцца Алена*
*Непаўторнай жонкай мне!*
*Так, сябруем мы нязменна,*

***Але ўсё-ткі – не, не, не!”…***

**Ну, народ крыху здзівіўся…**

**І ізноў пераключыўся**
**На сямейныя палі,**
**Бо Кастэнкі падышлі.**

**Станіслаў, малодшы, першым**
**Пра сваё жыццё пачаў:**

***“Я скажу вам тут не вершам!***
***Перайшоў у восьмы. Спраў,***
***Як заўсёды, дастаткова:***
***І рыбалка, і грыбы,***
***Паміж імі наша мова –***
***Без прымусу і ганьбы.***

***І каханне адбылося, –***
***Заглядзеўся – на бяду…***
***Памяць шэпча ў тым калоссі, –***
***Вас туды не павяду!”***

**А за сынам – мама Іна**
**Праз усмешку пачала:**

***“Над “Успамінам” нейкім клінам***
***Свет сышоўся! Я знайшла***
***Тут вандроўкі, захапленні…***
***А ці помніце вы Крым***
***І вунь той дзень нараджэння?***
***Успамінаю я аб ім!..”***

**Тут і Віктар адгалоссе**
**Падтрымаў:** ***“Нацюрліх! Клін:***
***Як заедзем у Феадосію -***
***Нараджаецца, блін, сын!***
***Нейкі цуд!.. А так – працую:***
***На “Лаўсане” я раблю***
***Й мазалём сваім мацую***
***Я хімічную раллю.***

***Грошай столькі, што не можам***
***Нават іх і падлічыць.***
***Любім свет. Жывём прыгожа.***
***Дасці Божа – будзем жыць!..”***

**Тут Алена Іванцова –**
**Наш біёлаг малады –**
**Павяла празрыстым словам**
**Да крынічнае вады:**

***“Так хвалююся, дарэчы, –***
***У Брно я пападу!***
***Возьме там мяне за плечы***
***Мендэль сам! І я знайду***
***Там генетыкі вытокі!***
***І ад той сівой пары***
***Я Рыгора счую крокі –***
***Калі ён у манастыры***
***Тры закона вырабляў!”…***

**Голас нечы прагучаў:**
***“Манастыр жаночы быў?”*** **–**
**І Алену ў фарбу ўбіў.**

**Віктар Масленікаў шчыра**
**Пра сябе нам распавёў:**

***“У медыцыне мая ліра –***
***Там сябе калісь знайшоў…***
***Дзе ЧП якога шолах –***
***У гарбальніцу, да мяне, –***
***Я ж рэаніматолаг,***
***І ляжыць заўжды на мне***
***Абавязак найвялікі –***
***Да жыцця вяртаць ізноў;***
***Не вяду я ўжо падлікі,***
***Колькі выцягнуў “жмуроў”.***

***Быў у Польшчы, быў у Празе –***
***І у тым чароўным звязе***
***Мару зноўку пабываць.***

***Трубак здолеў назбіраць***
***Самых розных да халеры –***
***І палю табаку я.***

***Не люблю, калі без меры***
***нос суюць і да… і вельмі многа***
***Мне пытанняў задаюць –***
***Пра сямейную аблогу***
***І пра тое, што дзе чуць.***
***Жонка? Вось яна. Мая́!”***

**І Святлане мікрафону**
**Тут жа ў рукі і аддаў:**

***“Віктар  –  мой найлепшы гонар!***
***Вам усё ён расказаў…***
***З ім я побач і ўў шпіталі, –***
***Афтальмолаг.  Што дадаць?***
***Я яму ў замежнай далі***
***Буду грудку гатаваць…”***

**Тут Сяргей Бяспанскі выйшаў –**
**Наш ахоўнік усіх вякоў:**

***“Гэта добра, што пакрышым***
***Мы ў вандроўку лёс ізноў:***
***Атрымаем выйгрыш чысты –***
***Застанецца памяць нам…***

***Па жыцці авантурыстам***
***Адчуваў сябе я сам.***
***Педагогікай працяўся,***
***Выхавацелем рабіў,***
***І заўсёды хваляваўся,***
***Калі лёс кагосьці біў,***
***Калі выпадак нявечыў –***
***Калі клалася на плечы***
***Зона…  Што таму віной?..***
***Але хлопцы пры сустрэчы***
***Абдымаюцца са мной”.***

**Тут сваё сказала слова**
**Наша Ліля Ушакова:**

***“Я  –  юрыст.  І пад рукою***
***Камбінат “Хімвалакно”, –***

*Там бываю я  такою!..*
*Сёння з вамі заадно, –*
*Можа, тут каханне стрэну?*
*Не было ж яго яшчэ…*
*Будуць добрымі хай змены!*
*Хай каханне апячэ!”*

**А ля Лілінай згароды**
**Ды Калугін Уладзімі́р:**

*“Я за Лілечку заўсёды*
*І ў агонь, і ў цёмны вір!*
*Хай яна мне толькі скажа –*
*За яе Валодзька ляжа!”…*

**Не забылі і кіроўцаў –**
**І свае сказалі слоўцы**
**І вусач Алег Камінскі**
**(Скончыў хлопец у свой час**
**Інстытут культуры ў Мінску,**
**Ну а зараз возіць нас),**
**І напарнік, Ігар Бенька,**
**У якога за спіной**
**Усяго  –  зусім не жменька!**
**Усе дарогі да адной**
**Зведаў ён за столькі год…**

**Вось такі, браток, народ**
**У аўтобусе сабраўся**
**І ў той свет кудысь падаўся…**

## Мяжа.

**Павітаўся Брэст смуродам –**
**Нейкім серавадародам.**
**Зашумелі: *“Што за жах!***
***Можа, то Радзімы пах?..”***

**А ўсё проста – ўкруг балоты,**
**Бо Палессе там, браток,**
**Плюс занудная спякота, –**
**Тут смуроду і выток.**

**А яшчэ, казалі людзі,**
**Што уран вазілі тут –**
**Во й паспелі запаскудзіць**
**Легендарны той маршрут.**

**Нечакана перад намі**
**І дзяржаўная мяжа.**
**Мытнік з добрымі вачамі,**
**У памежніка душа**
**Вось такая. Сёння ж свята –**
**Дзень зялёных картузоў!**
**Не, шманаць не будуць хату**
**І выкручваць да асноў…**

**Пастаялі там нямнога –**
**І адкрылася мяжа...**

**Польшча. Ноч. Блішчыць дарога,**
**Нібы спі́на у смаўжа…**

**Ой, Панас, пакуль спынюся –**
**Позна ўжо.  Прыду пасля  –**
**І тады нагаваруся**
**Пра вунь тое, што здаля**
**Прыляцела і засела**
**Ў галаве маёй навек.**
**Будзе песня шчэ з прыпевам, –**
**Вось такі я чалавек!..**

**І пабег Мікола ў ранне**
**Праз маўклівыя Брылі...**

**Нам такое б вось абранне!**
**Каб мы добра так жылі!..**

***Май - чэрвень 2005 г.***

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Панас Прусак**
***Шлях да Прагі***
**Падарожная паэмка**

***Рэдактар - А.М.Яцкова***

Выдавец і паліграфічнае выкананне

СПРАВА

*№ 67*
*12.06.2012 г.*
*213107 в.Брылі Магілёўскага раёна, Беларусь*
mikolabryl@gmail.com

